# ПАГОНЯ

Чацвер
5 жніўня 1999 г.
№ 49 (426)
Кошт 25.000 руб.

## Тэхніку пабачыў, людзей - не

**На мінулым тыдні падчас паездкі па Гарадзеншчыне з мэтаю кантролю жніва, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведаў Мастоўшчыну.**

Мясцовыя ўлады ды кіраўніцтва саўгаса «Чарлёна» старанна падрыхтаваліся да прыезду Аляксандра Рыгоравіча. На сорак метраў па абодва бакі шашы ўсё было зжата, а на вясковых сотках на такую адлегласць пакасілі бацвінне.

У мястэчку Лунна, дзе знаходзіцца кантора саўгаса, супрацоўнікі КГБ загадалі замаляваць бел-чырвона-белы сцяг, што быў на воданапорнай вежы год таму. Для гэтай справы міліцыя адшукала былога зэка, але дацягнуцца той не здолеў, знайшлі іншага. На сцяне аўтастанцыі надпіс «Жыве Беларусь» замалёўваць не сталі, таму што тэрмінова трэба было рамантаваць увесь будынак. Бо там яшчэ і непрыстойныя надпісы.

У той жа час у вёсцы Масты Правыя былі замаляваны антыпрэзідэнцкія лозунгі на сценах гандлёвага цэнтра, напісаныя яшчэ год таму. Паказаць, як працуе тэхніка рознай вытворчасці, было вырашана на асобным участку гатунковай пшаніцы. Гэты ўчастак - ля вёскі Грушаўка, дзе знаходзіцца спецкамендатура. У ёй, як правіла, адбываюць пакаранне старшыні калгасаў ды іншыя дробныя начальнікі, што пракраліся ўшчэнт.

У дзень прыезду Лукашэнкі непадалёку ад дарогі, дзе ён павінен быў ехаць, калгаснікі сціртавалі салому. У адзінаццаць гадзінаў да іх падышоў міліцыянт і загадаў: «На сёння ваша праца скончана. Ідзіце дахаты адпачываць». Затым на кожнай развілцы дарогі быў пастаўлены міліцыянт. І калі жыхары Лунна вырашылі падысці да шашы, каб вітаць першага прэзідэнта, іх павярнулі назад: «Не перашкаджайце». Як толькі прэзідэнцкі картэж з машынамі суправаджэння наблізіўся да поля, па ўзмаху рукі аднаго з арганізатараў мерапрыемства некалькі камбайнаў рознай вытворчасці («Ягуар», «Бізон» ды іншыя) распачалі жніво. Паказ тэхнікі ў справе доўжыўся не болей як пятнаццаць хвілінаў, пасля чаго Аляксандр Рыгоравіч паехаў далей. А ўсім службам, якія былі задзейнічаны (медыкі, сувязісты, пажарнікі ды іншыя), паступіла каманда «адбой».

**Язэп Палубятка**

## Падлічылі - праслязіліся

**Гарадзенскі аблвыканкам разгледзеў вынікі выканання бюджэта вобласці за першае паўгоддзе бягучага года: канcалідаваны бюджэт выкананы на 46,4 працэнта, атрымана 13 трыльёнаў рублёў даходаў.**

95 прадпрыемстваў — 28,4 працэнта ад колькасці ўлічаных —допусцілі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Імі не выраблена прадукцыі на 3,7 трыльёна рублёў. На складах назапашана гатовай прадукцыі на 8,2 трыльёна рублёў, альбо 33 працэнты да аб'ёму вытворчасці чэрвеня г.г. Агульная сума запазычанасці дзяржаўных і прыроўненых да іх прадпрыемстваў па бягучых плацяжах у бюджэт і пазабюджэтныя фонды дасягнула 203,9 мільярда рублёў.

Расходная частка абласнога бюджэту выканана на 52,9 працэнта.

**Антон Лабовіч**




**Тэмпература паветра па вобласці:**

**6 жніўня** - пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўднёва-заходні 4-9 м/с. Тэмпература ўначы +11...+16, удзень +25...+30.

**7 жніўня** - месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-заходні 4-9 м/с. Тэмпература ўначы +13...+18, удзень +25...+30.



Дзеці гарадзенскіх двароў
Фота Юрыя Палуцкага

# Згвалтаванняў стала менш, а вось якасць наркотыкаў палепшылася

**2 жніўня Гарадзенскае абласное УУС арганізавала для журналістаў чарговую прэс-канферэнцыю. Начальнік крымінальнай міліцыі і на сённяшні дзень в.а. начальніка УУС Віктар Пятровіч Жарабіла дакладваў пра агульную крымінагенную сітуацыю ў вобласці і пра тое, што зрабіла міліцыя за першую палову года.**

Агульная колькасць злачынстваў - 5 572, што на сем працэнтаў альбо на 366 болей, чым за той жа перыяд мінулага года. Самы вялікі «ўклад» у гэтую справу ўнеслі крадзяжы ўсіх відаў уласнасці (261). Маем на ўвазе крадзеж вясковых магазінаў, дзе, як растлумачыў начальнік міліцыі, мясцовае кіраўніцтва не дбае пра элементарную ахову. Напрыклад, у вёсцы Пладовая Мастоўскага раёна толькі за мінулыя паўгода магазін абкрадалі тройчы. Наогул, крывая росту злачынннасці досыць крута пайшла ўгору менавіта ў раёнах. Асабліва вылучаюцца ў дакладзе Лідскі, Воранаўскі, Свіслацкі, Смаргонскі ды Слонімскі раёны. Калі ў сярэднім па вобласці колькасць злачынстваў узрасла з 43 да 47 на дзесяць тысячаў чалавек, то ў Лідскім раёне гэты паказчык роўны 67.

Віктар Пятровіч адзначыў доўгачаканае зніжэнне колькасці злачынстваў па некаторых пазіцыях: на 18 працэнтаў меней зарэгістравана згвалтаванняў, на 30 працэнтаў - разбояў, на пяць працэнтаў - крадзяжоў. Паменшылася на чатыры працэнты доля злачынстваў, што ўчыняюць непаўналетнія. На 17 працэнтаў менш зарэгістравана вулічных злачынстваў.

Па-ранейшаму актуальныя кватэрныя крадзяжы. Аднак гарадзенская міліцыя, паводле дадзеных яе шэфа, можа пахваліцца добрымі паказчыкамі раскрываемасці крадзяжоў - каля 70 працэнтаў. Тым не менш, гарадзенцы павінны заўсёды памятаць, у якім рэгіёне жывуць. Блізкасць межаў вабіць сюды расейскі, каўказскі, азіяцкі крымінал, які часам скарыстоўвае ў сваіх мэтах статус бежанцаў. Паранейшаму распаўсюджана махлярства з выкарыстаннем даверлівасці дзяцей і нават дарослых грамадзянаў.

За палову года ў вобласці ўчынена 51 забойства. Сем з іх яшчэ не раскрытыя. А ўсяго нераскрытых забойстваў мінулых гадоў болей як 100. Цікава, што ўсё гэта ўлічвалася з 1953 года.

Крыху змянілася сітуацыя з наркотыкамі, аднак не ў сэнсе колькасці, а ў сэнсе якасці. У вобласць пачалі паступаць больш кругыя за мясцовую макавую саломку наркотыкі. Марыхуану, паводле меркавання Жарабілы, увозяць мяшкамі. Нядаўна знойдзены цэлы склад у Скідалі з сінтэтычнымі наркотыкамі. Супрацоўнікамі Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй затрымана групоўка па пастаўцы марыхуаны ў Гродна. Асноўны фігурант па гэтай справе - грамадзянін Казахстана - правозіў наркотык у пластыкавых бутэльках, схаваных у паліўным баку аўтамашыны «Пассат». У раскрыцці гэтага злачынства дапамагла апаратыўная сувязь з казахскімі калегамі.

На ўліку ў Камітэце па АЗіК УУС па Гарадзенскай вобласці стаяць 26 злачынных груповак, у чыіх шэрагах больш за 240 чалавек, і 29 іх лідараў. На сённяшні дзень у актыве нашай міліцыі дзевяць лідараў, якія былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці і 11 груповак, што спынілі сваё існаванне, сярод іх - групоўка небезвядомага Захара.

**Ул. інф.**

## Гарадзенская моладзь даследуе Карабель і Замак

**У жніўні адначасова пачаліся тры летнікі з удзелам хлопцаў і дзяўчат з Гародні.**

З першага жніўня распачалася сумесная экспедыцыя Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта і Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея. Мэтай, паводле слоў кіраўніка экспедыцыі, кандыдата гістарычных навук Генадзя Семянчука, з'яўляецца «вывучэнне унікальнага археалагічнага комплексу беларускай часткі возера Дрысвяты, што на мяжы з Летувой». Гэты комплекс складаецца з трох кампанентаў: раннесярэднявечнае гарадзішча, якое ў XV-XVII стагоддзях выконвала функцыю памежнага замка ВКЛ, мястэчка з часоў ВКЛ і бескурганны хрысціянскі могільнік XI-XIII стагоддзяў. Увесь гэты комплекс месціцца на востраве Замак і бліжэйшым паўвостраве.

Акрамя гарадзенскіх студэнтаў, у склад экспедыцыі ўваходзяць студэнты беларускай філалогіі Беластоцкага універсітэта, а таксама студэнты Познаньскага універсітэта імя А.Міцкевіча. Ёсць нават студэнт Усходняга факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта.

Праходзіць экспедыцыя ва ўмовах, набліжаных да сярэднявечных. Студэнты жывуць у намётах, ежу здабываюць з лесу і азёраў. Працягнецца летнік да 20 жніўня.

***

2 ліпеня пачаўся гісторыка-археалагічны летнік у Гальшанах, які ладзіць Гарадзенская філія «Маладой Грамады». Аб'ектам даследавання стала гальшанская гара Карабель. Акрамя чыста навуковай, удзельнікі летніка паставілі перад сабою і адукацыйныя мэты. Вывучыць як мага болей беларускіх песень і правесці двухтыднёвы курс польскай мовы.

***

Гарадзенскае моладзевае краязнаўчае згуртаванне «Дзедзічы» распачало 2 жніўня экспедыцыю ў беларуска-польска-летувіскае памежжа. Гэта краязнаўча-этнаграфічная экспедыцыя з мэтай фіксацыі помнікаў гісторыі і культуры. Дзейнічаць яна будзе ў раёне вёсак Адамовічы-Баля-Лойкі-Васілевічы. Узяўшы на ўзбраенне дыктафоны, фотаапараты, «дзедзічы» плануюць даследаваць этнаграфічныя і моўныя адметнасці рэгіёна, тапаніміку, распытаць жыхароў пра недалёкае мінулае.

ПАГОНЯ абавязкова распавядзе пра вынікі летнікаў.

**Павал Мажэйка**

# Раздавім фашысцкую гадзіну?

**Ноччу з аўторка на сераду на сценах дамоў па вуліцы К.Маркса ды плошчы С.Баторыя з'явіліся ўлёткі фашысцкай арганізацыі пад назвай «Русское Национальное Единство».**

У дадзеных улётках лідар «РНЕ» А.Баркашоў разважае на тэму таго, што «фашизм - это этноолигархия». «Какие же мы олигархи? У нас не так много денег, как у Березовского», - здзіўляецца ён. Наваяўлены выратавальнік рускай нацыі ганарыцца тым, што «в одном из подмосковных городков за две последние недели в «РНЕ» вступило 600 человек. При чём половина - военные». Гэтыя словы рускага нацыста прымушаюць задумацца. Бо нават у Гродне на працягу апошняга месяца па паштовых скрынях дамоў у раёне вуліцы Шчорса раскідваецца макулатура ў выглядзе ўлётак «РНЕ». А, як вядома, у дадзеным раёне значная частка жыхароў - вайскоўцы. Рабіце высновы.

Чалавек, які прэтэндуе на званне лідара рускай нацыі, заяўляе: «Одними маршами такого не добьёшся. Это у нас дети по 14-16 лет в клубах маршируют и в тирах стреляют. Остальные люди уже настрелялись в разных местах и в разное время». Вось як.

Паўстае пытанне: а што на гэта ўлады? Галоўны інжынер ЖЭС-5, які займаецца раёнам вуліцы К.Маркса, Святлана Кудзеля была вельмі здзіўленая нашым званком. На пытанне пра тое, што надпісы «Жыве Беларусь!» знікаюць у імгненне вока, а ўлёткі «РНЕ» вісяць цэлы дзень яна адказала: «Надпісы «Жыве Беларусь!» пішуць на фасадах. Калі едзем на працу, мы іх бачым, а таму хутка прыбіраем. Паперку жа гэтую не кожны чытае. Іх паўсюль вешаюць: прадаю, куплю. А я адкуль ведаю, што на іх напісана?» Тым не менш, як заявіла сам А.Баркашоў, такіх вось «паперак» вісіць па ўсёй Расіі ды Беларусі паўтары мільёны.

КГБ - гэта тая арганізацыя, якая апроч іншага, займаецца таксама палітычнымі арганізацыямі і партыямі. Таму мы задалі пытанне пра дзейнасць «РНЕ» ў Гродне прадстаўніку прэс-службы ўпраўлення КГБ па Гарадзенскай вобласці Аляксандру Марчуку. «Для нас гэтай арганізацыі не існуе, - адказаў ён.- У Гродне ёсць толькі некалькі асобаў, якія называюць сябе «членами российской организации». Сама арганізацыя нават на Беларусі не зарэгістраваная. Стаўленне ў нас да «РНЕ» такое самае, як і да ўсіх астатніх: пакуль яны не парушаюць крымінальны кодэкс, мы іх не чапаем».

Вось так! Надпісы «Жыве Беларусь!» вокамгненна знікаюць са сценаў гарадзенскіх дамоў, а фашысцкія ўлёткі свабодна вісяць у цэнтры горада. Мітынгі, якія ладзіць апазіцыя, разганяе міліцыя, а брытагаловыя малойчыкі спакойна збіраюцца кожны панядзелак а 19-й гадзіне ля гарадзенскай філармоніі. І нікому, як высвятляецца, да іх няма справы...

Як назваць улады, што забараняюць і мэтанакіравана знішчаюць усё беларускае, а ў іх пад бокам расце ды сталее «карычневая гадзіна», якую яны не чапаюць? І чым усё гэта скончыцца?

**Рыгор Кавальчук**

# Святейшы візіт Патрыярха ў Слонім

**На мінулым тыдні, 20 ліпеня, Слонім наведаў патрыярх Беларускай аўтакефальнай народнай праваслаўнай царквы Юрый Рыжы-Рыжскі.**

У паездцы па Гарадзеншчыне яго суправаджаў архі-мандрыт Іаан, які з'яўляецца сакратарам патрыярхата Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Менску. Паколькі час знаходжання ў Слоніме ўладыкі Юрыя быў абмежаваны, да таго ж ён цяжка хварэе, на некаторыя пытанні пагадзіўся адказаць архімандрыт Іаан.

***— Айцец Іаан, якая мэта візіту ўладыкі Юрыя ў Слонім?***

— На тэрыторыі Гарадзенскай вобласці, наогул, вельмі дрэнныя справы ва ўлонні праваслаўя. Многія святары Рускай праваслаўнай царквы адышлі ад канонаў праваслаўнай веры, захапіліся срэбралюбствам, служаць не духоўнымі пастарамі вернікам, а прыслугоўваюць уладзе, маючы з гэтага карысць. У сваёй паездцы ўладыка Юрый заклікае праваслаўных вернікаў далей трымацца ад такіх ілжэпастараў, а з'гуртавацца вакол сапраўды народнай — Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

***— Ці будзе ў нас праваслаўная царква, у якой богаслужэнні будуць весціся на беларускай мове?***



Уладыка Юрый (у цэнтры) са сваімі памочнікамі і слонімскімі вернікамі

— У нашай царкве богаслужэнні і зараз вядуцца на беларускай мове. Некалькі гадоў таму ў Нью-Ёрку было выдадзена Евангелле (Новы Запавет) па-беларуску. Пераклад гэтай святой кнігі зрабіў Васіль Сёмуха. Але моўнае пытанне патрэбна вырашаць. Для Беларускай царквы патрэбна рыхтаваць святароў з асяродка свядомых беларусаў, для якіх беларуская мова з'яўляецца сапраўды роднай...

***— Ці магчыма такое, што, калі, скажам, зменіцца палітычная сітуацыя ў краіне, то Беларуская праваслаўная царква зойме месца ў тых храмах, якія цяпер дзейнічаюць на Беларусі пад патранажам Рускай праваслаўнай царквы?***

— Руская царква наскрозь палітызавана. І ні з Філарэтам, ні з Лукашэнкам нам дзяліць няма чаго. Мы - слугі Бога і знаходзімся толькі пад Божай уладай. А наконт храмаў... Царква — гэта людзі. Ёсць людзі — будуць і сцены.

Гутарыў
Мікола Канановіч
«ГС»

# Ліда ў шапку не спіць...

Дзяржкамдрук РБ зарэгістраваў краязнаўчы гістарычна-літаратурны часопіс «Лідскі летапісец». Яго заснавальнікам выступіў Валерый Слюкін, старшыня лідскай гарадской арганізацыі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, старэйшы навуковы супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея. Утвораная рэдакцыя мае за мэту друкаваць навукова-папулярныя, літаратурна-мастацкія матэрыялы ды хроніку цяперашніх падзеяў. Тут можна будзе пачытаць усё, што звязана з Лідчынай, а таксама творы аўтараў, якія нейкім чынам звязаны з гэтым краем. Перыядычнасць выхаду часопіса - адзін нумар на месяц. Распаўсюджвацца «Лідскі летапісец» будзе не толькі ў межах Гарадзеншчыны, але і на тэрыторыі ўсёй Беларусі.

***

У Лідзе пасля невялікага перапынку зноў пачала друкавацца грамадска-палітычная газета «Голас Ліды», заснавальнікамі якой з'яўляюцца Лідская гарадская і раённая рады БНФ «Адраджэнне». Рэдактарка газеты - Лілія Сазанавец. У выданні падаюцца найбольш важкія «франтаўскія» навіны, а таксама ўсё тое, што здараецца ў горадзе і раёне і што часцей за ўсё не асвятляецца ў афіцыйным друку. А калі і асвятляецца, дык гэтак, каб не пакрыўдзіць улады. «Голас Ліды» спрачацца з уладай не баіцца.

**Ул. інф.**

# Беларусы працуюць за мяжой ужо тысячамі

**Як ПАГОНЯ абяцала ў мінулым нумары, мы працягваем тэму міграцыі. Сёння пагутарым аб працоўнай міграцыі.**

Рэспубліка Беларусь, як і многія іншыя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, адчувае сёння значныя цяжкасці, звязаныя з міграцыйнымі працэсамі. Не з'яўляюцца выключэннем і працоўныя міграцыйныя працэсы. На 10 ліпеня 1999 года наша дзяржава выдала беларускім фірмам 103 ліцэнзіі на права працаўладкавання грамадзянаў Рэспублікі Беларусь за мяжой і 569 ліцэнзій на прыцягненне замежнай працоўнай сілы ў Беларусь. Аднак, пытанні працоўнай міграцыі ў рэспубліцы па-ранейшаму стаяць вельмі востра.

Асноўная міграцыйная плынь працаўладкавання рушыла з Беларусі. Нават нягледзячы на болей як пяцікратнае пераўзыходжанне выдадзеных ліцэнзій на прыцягненне замежнай працоўнай сілы над ліцэнзіямі на права працаўладкавання грамадзянаў Рэспублікі Беларусь за мяжой. Адпаведна інфармацыі з Камітэта па міграцыі пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь, пачынаючы з лютага 1994 года, за мяжой працаўладкавалася 12 тысяч грамадзянаў Беларусі. Асноўнымі краінамі працы (у парадку памяншэння) з'яўляюцца: Расійская Федэрацыя, Рэспубліка Чэхія, Ізраіль, Нямеччына, Польшча, ЗША, Украіна, Канада, Грэцыя. На працу ў Рэспубліку Беларусь прыцягнута 4300 іншаземцаў. Больш за ўсё на тэрыторыі нашай дзяржавы працуе палякаў і украінцаў (прыблізна па тысячы чалавек), далей - малдаване, армяне, казакі, таджыкі і туркмены. Ёсць сярод працоўных мігрантаў у Рэспубліку Беларусь нават немцы і ангельцы, але яны працуюць у досыць профільных сферах.

Вельмі востра ў Рэспубліцы Беларусь стаіць пытанне з нелегальнай працоўнай міграцыяй. Згодна з дадзенымі эканамістаў аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка», яна пераўзыходзіць легальную працоўную міграцыю болей чым у дзесяць разоў. Зыходзячы з атрыманай намі ў Цэнтры інфармацыі, у 1998 годзе больш як 100 тысяч беларусаў працавала за мяжой. Адны выязджаюць на месяц, другія на сезонныя працы. Каля 30 тысяч грамадзянаў Беларусі цяпер пастаянна працуюць за мяжой нелегальна і прыязджаюць на Радзіму толькі падчас адпачынкаў. Нягледзячы на неабароненасць у працоўных праваадносінах, нашы грамадзяне аддаюць перавагу паехаць за мяжу па вялікія грошы. Усё-ткі меней за 200 даляраў у месяц за заходнімі межамі Беларусі ніхто не зарабляе, а ў нас, адпаведна апошнім дадзеным Міністэрства статыстыкі і аналізу, сярэднямесячны заробак складае 20 мільёнаў рублёў (19.534.000 рублёў), што крыху больш як 40 даляраў ЗША.

Больш за ўсё беларускіх нелегалаў працуе ў Польшчы і Германіі. Да 17 жніўня мінулага года лідыравала ў гэтым кірунку Расійская Федэрацыя. Аднак, фінансавы крызіс паменшыў заробкі ў Расіі ў даляравым эквіваленце ў чатыры разы. Калі год таму беларускія будаўнікі, якія працуюць у Маскве альбо ў Санкт-Пецярбургу, атрымлівалі па 800 даляраў у месяц, то сёння - толькі 200.

Цэлыя вуліцы некаторых замежных гарадоў займаюць беларускія нелегалы. Варшава, Ломжа, Беласток у Польшчы; Берлін і Франкфурт-на-Майне ў Германіі; Трэнтан, Філадэльфія і Чыкага ў ЗША - гэта самыя частыя месцы працы беларусаў-нелегалаў у далёкім замежжы. У бліжнім жа гэта: Масква, Мурманск, Санкт-Пецярбург і Калінінград.



Пакуль у Беларусі сярэднямесячны заробак будзе на ўзроўні спажывецкага кошыку, на наш погляд, многія грамадзяне нашай рэспублікі па-ранейшаму будуць накіроўваць свае позіркі на працу за мяжой. І ніякія меры (напрыклад, дэкрэт прэзідэнта N29 «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленню працоўных адносінаў, умацаванню працоўнай і выканаўчай дысцыпліны» ці новы працоўны Кодэкс) не ўтрымаюць беларусаў ад спакусы працаваць за добрыя грошы за мяжой. Нічым не здолее дапамагчы і Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы РБ. Нават нягледзячы на чатыры мільярды рублёў ад беларусіх фірмаў за атрыманыя ліцэнзіі на права працаўладкавання. Патрэбны карэнныя эканамічныя рэформы.

**Кацярына Зволін**

# Нашым дзецям будзе лепш ад школьнай рэформы?

**З першага верасня ў агульнаадукацыйных школах Беларусі будзе дзейнічаць новая сістэма адзнакаў. Праўда, пакуль яшчэ распрацоўшчыкі гэтай дэталі школьнай рэформы не прыйшлі да адзінага меркавання: ці то гэта будзе дзесяцібальная сістэма, ці то звыклую пяцібальную папоўняць дзесятыя долі. Зразумела, гэтым далёка не вычэрпваюцца новаўвядзенні школьнай рэформы, пра якую шмат гаварылі, але распачалі яе практычнае ажыццяўленне ў мінулым навучальным годзе.**

Пасля вяртання з рэспубліканскай канферэнцыі педагогаў, дзе абмяркоўваліся першыя вынікі гэтага працэсу, начальнік упраўлення адукацыі Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Антонавіч Гаўрон правёў прэс-канферэнцыю для мясцовых журналістаў. Спачатку ён не абмінуў адзначыць, што Гарадзеншчына заўважна вылучаецца на агульнарэспубліканскім фоне сваёй сістэмай адукацыі і высокім патэнцыялам кадраў. Пра гэта сведчыць хаця б той факт, што з 9040 выпускнікоў сярэдніх школаў 1406 атрымалі медалі, што складае 12% (па Менску гэты паказчык крыху больш за 6%).

Базавая школа, якую старэйшае пакаленне памятае, як васьмігодку, цяпер складае 10 класаў. Наступная ступень навучання - ліцэй або ліцэйныя класы. Поўная сярэдняя адукацыя такім чынам складзе 12 гадоў. Першыя будучыя выпускнікі такіх школаў толькі што адвучыліся ў падрыхтоўчых класах. Пачынаць навучанне дзеці будуць з шасці гадоў. Пасля шматгадовых ваганняў, педагогі ўсё ж вырашылі, што гэта аптымальны ўзрост. Тым болей, што вучэбная нагрузка змяншаецца, а хадзіць у школу дзеці будуць пяць дзён на тыдзень. У мінулым годзе абласны бюджэт выдаткаваў 98 мільярдаў рублёў для падрыхтоўкі вобласці да прыёму ў школу шасцігодак. Сродкі пайшлі ў асноўным на закуп мэблі, затое кожнае дзіця атрымала вучэбнае месца і ложак.

У якасці станоўчых момантаў працэсу рэфармавання школы спадар Гаўрон вылучыў вялікую колькасць разнастайных навучальных планаў. Цяпер настаўнік, як адзначыў Уладзімір Антонавіч, пазбавіцца жорсткага прэсінгу надзору за ягонай тэхналогіяй навучання. Кожны мае права выбіраць тое, што падаецца яму больш прыдатным. У вобласці існуе ўжо больш як 100 навучальных планаў. Цяпер у бацькоў велізарны спектр магчымасцяў падаваць дакументы дзяцей у тую школу, якая іх больш задавальняе па профілю навучання. На жаль, застаецца праблема навучання на роднай мове. Адмову ў фармаванні асобнага класа з навучаннем на беларускай ці польскай мове, калі пададзена тры-чатыры заявы, спадар Гаўрон матываваў тым, што нібыта Палажэнне аб сярэдняй школе дапускае арганізацыю класа толькі пры наяўнасці 25 вучняў.

Значна цяжэй цяпер будзе разам з Атэстатам сталасці атрымаць медаль: для гэтага мала скончыць на выдатна выпускны клас, трэба быць выдатнікам і ў дзявятым класе. «Галоўнае, - сказаў У.Гаўрон, - падчас пераходу на новы змест навучання, не страціць таго лепшага, што напрацавала савецкая школа.»

Канешне, школьная рэформа не вырашае многіх надзённых праблемаў. Не хапае выкладчыкаў замежнай мовы, фізкультуры, сацыяльных педагогаў, псіхолагаў. Вострa стаіць праблема адсутнасці настаўнікаў-дэфектолагаў: яны патрэбныя 13 тысячам вучняў з недахопамі псіхафізічнага развіцця, якія з тых ці іншых прычынаў наведваюць звычайныя школы. Зразумела, што ільвіная доля свабодных настаўніцкіх вакансій - у вёсках. І наўрад ці ў гэтым выпадку можна разлічваць на Палажэнне, што вярнулася з былых часоў, накont абавязковага размеркавання выпускнікоў ВНУ. На пачатку мінулага навучальнага года ў сістэму адукацыі Гарадзенскай вобласці не з'явілася каля 200 дыпламаваных спецыялістаў, якім былі падрыхтаваны месцы. Мізэрнае фінансаванне школаў у перыяд падрыхтоўкі да новага навучальнага года паставіла іх дырэктараў перад неабходнасцю самастойна знаходзіць сродкі на рамонт, што яны і робяць. Беднавата ў нашых школах і з камп'ютарнай базай.

Падчас прэс-канферэнцыі высветлілася адна даволі цікавая асаблівасць нашага часу: дзевяцікласнікі валам валяць у ПТВ. Да таго ж, многія маюць атэстаты з сярэднім балам 4,5. Надзвычайнай папулярнасцю карыстаюцца будаўнічыя спецыяльнасці. У гэтым годзе ўжо зараз конкурс тры чалавекі на месца. Калі гэта тэндэнцыя захаваецца, то ў выпускныя (а надалей у ліцэйныя) класы прыйдуць дзве катэгорыі вучняў: з самага пачатку настроеныя на паступленне ў ВНУ, і тыя, каму не хапіла месцаў у ПТВ. У гэтых групах значны перапад ва ўзроўні ведаў. Ці будуць у такім выпадку ліцэйныя класы адпавядаць свайму прызначэнню? Тым не менш, паводле ўстаноўкі Міністэрства адукацыі, школы не маюць права адмовіць някаму ў атрыманні сярэдняй адукацыі. Зрэшты, усё яшчэ можа змяніцца, рэформа толькі набірае хаду. Да першага выпуску новай школы яшчэ адзінаццаць гадоў.

**Ніна Палуцкая**

# Новыя павевы па абароне правоў спажыўцоў

**Міністэрства прадпрымальніцтва ды інвестыцыяў Рэспублікі Беларусь накіравала Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку праект дэкрэта аб некаторых мерах па абароне правоў спажыўцоў.**




Праект новага дэкрэта істотна пашырае правы Міністэрства прадпрымальніцтва, якое атрымае права праводзіць праверкі суб'ектаў гаспадарання, у тым ліку з прыцягненнем супрацоўнікаў кантрольных і праваахоўных органаў, на прадмет выканання заканадаўства аб абароне правоў спажыўцоў. Акрамя таго, Міністэрства атрымае магчымасць накіроўваць у рэгіструючыя органы прадстаўленні аб ліквідацыі і пазбаўленні ліцэнзіяў суб'ектаў гаспадарання, што парушаюць правы спажыўцоў, а таксама накладаць штрафы на кіраўнікоў юрыдычных асобаў у памеры ад дзесяці да пяцісот мінімальных заробкаў (10-500 мільёнаў рублёў).

На думку Міністэрства, неабходнасць прыняцця новага дэкрэта тлумачыцца павелічэннем колькасці выпадкаў парушэння правоў спажыўцоў суб'ектамі гаспадарання. І сапраўды, за 1998 год тэрытарыяльнымі камітэтамі Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый пры праверцы 14 160 суб'ектаў гаспадарання было выяўлена 8 478 парушэнняў, што складае 61,7 працэнта. Пры гэтым 42,8 працэнта парушэнняў прыпадае на дзяржаўныя прадпрыемствы і 57,2 працэнта - на суб'ектаў гаспадарання з іншай формай уласнасці. Аднак, ці можна Міністэрству фактычна даваць магчымасць вызначаць лёс прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў праверкамі, спагнаннямі ды прадстаўленнямі аб ліквідацыі? (Апошняе ж увогуле ў функцыях пракуратуры!) Канешне ж, на наш погляд, не!

Калі ж усё-такі дэкрэт будзе прыняты, то Міністэрства прапрымальніцтва ды інвестыцыяў поруч з падатковымі інспекцыямі і падатковай паліцыяй, Нацыянальным банкам, службай па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ў адносінах да суб'ектаў гаспадарання стане яшчэ адным «карным органам». І хоць будучы дэкрэт будзе мець дачыненне ў роўнай ступені як да дзяржаўных прадпрыемстваў, так і да суб'ектаў гаспадарання з іншымі формамі ўласнасці, ужо стала вядома: пад каго «капаюць». Бо нават віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа назваў з'яўленне вышэйзгаданага праекта дэкрэта чарговай спробай Міністэрства прадпрымальніцтва стварыць «маленькі» спецыяльны орган з выканаўчымі, заканадаўчымі і судовымі функцыямі ў адной асобе.

На наш погляд, будзе няблага, калі дэкрэт аб некаторых мерах па абароне правоў спажыўцоў сапраўды стане менавіта абаранкаю, а не парушаць правы суб'ектаў гаспадарання.

**Максім Жмінда**

# Курсы валют

**На 4 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 269.000 беларускіх рублёў; еўра — 286.404,30; нямецкая марка — 146.436,19; расійскі рубель — 11.120. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 4 жніўня даляр куплялі па 435.000—440.000 і прадавалі па 445.000—450.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс знізіўся ў сярэднім на 5.000 рублёў.

**У ліпені бягучага года курс даляра ЗША да беларускага рубля вырас на ўсіх сегментах валютнага рынку краіны. Лідарам росту стала рынкавая каціроўка даляра да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку — 9,9 працэнта (з 445.000—465.000 да 490.000—510.000 рублёў). На таргах Беларускай валютна-фондавай біржы даляр падаражэў на 3,5 працэнта (з 259.000 да 268.000 рублёў). На «чорным» рынку наяўнай валюты кошт даляра павялічыўся за месяц на 2,3 працэнта (з 430.000—435.000 да 440.000—445.000 рублёў пры куплі, з 440.000—445.000 да 450.000—455.000 рублёў пры продажы). У абменных пунктах камерцыйных банкаў курс даляра павялічыўся на 1,7 працэнта (з 295.000—305.000 да 300.000—310.000 рублёў пры куплі, з 305.000 да 310.000 рублёў пры продажы). За сем месяцаў 1999 года біржавы курс даляра вырас у 2,5 раза, пазабіржавы — на 17,6 працэнта, «чорны» наяўны — на 73,8 працэнта, банкаўскі наяўны — на 33,7 працэнта. Для параўнання: афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, знізіўся за месяц на 0,1 працэнта (з 24,22 да 24,19 рубля), з пачатку года — вырас на 17,1 працэнта.**

**Дзмітрый Уласаў**

# Прэстыжнасць і папулярнасць - розныя панаццi

**ПАГОНЯ працягвае супрацоўніцтва з украінскай сацыялагічнай службай «Грата», якая апрача разнастайных сацыялагічных апытанняў у 1999 годзе праводзіла апытанне на тэму «Самы папулярны і самы прэстыжны аўтамабіль на нашых дарогах».**

З 10 сакавіка па 10 траўня бягучага года ў апытанні ўдзельнічалі 7836 рэспандэнтаў з Беларусі, Малдовы, Расійскай Федэрацыі і Украіны. На пытанне: «Які самы папулярны і самы прэстыжны аўтамабіль на нашых дарогах?» адказалі 1636 жанчын і 6200 мужчын (сярэдні ўзрост рэспандэнтаў 29,4 года).

На наш погляд, чытачам ПАГОНІ будзе цікава даведацца пра вынікі апытання. Спачатку звернем увагу на табліцу N1: самы прэстыжны аўтамабіль.

Як бачна з табліцы N1, нягледзячы на розныя вынікі апытання на Беларусі, у Малдове, Расіі ды на Украіне, уяўленні наконт прэстыжнасці аўтамабіляў тоесныя. У лідарах Lincoln, Mercedes, BMW, Ferrari ды Jaguar. Вось якім чынам выглядаюць зводныя вынікі апытання аб прэстыжнасці аўтамабіляў ва ўсіх вышэйназваных дзяржавах **(гл. табл. N2)**.

**Табліца N2**

| N Марка аўтамабіля | % аддадзеных галасоў |
|---|---|
| 1. BMW | 19,3 |
| 2. Mercedes | 18,8 |
| 3. Jaguar | 9,4 |
| 4. Ferrari | 7,9 |
| 5. Lincoln | 5,2 |
| 6. SAAB | 4,8 |
| 7. Lamborghini | 3,3 |
| 8. Toyota | 3,2 |
| 9. Audi | 3,1 |
| 10. Volvo | 2,7 |
| 11. Bugatti | 2,3 |
| 12. Chrysler | 2,1 |
| 13. Honda | 2,0 |
| 14. Ford | 1,9 |
| 15. Chevrolet | 1,4 |
| 16. Volkswagen | 1,3 |
| 17. Mazda | 1,2 |
| 18. Alfa romeo | 1,2 |
| 19. «Жыгулі» | 1,1 |
| 20. KIA | 1,0 |
| Іншыя маркі | 6,8 аўтамабіляў |

Што да самых папулярных аўтамабіляў на Беларусі, у Малдове, Расіі ды на Украіне, то ў адзінаасобным лідарстве айчынныя «Жыгулі», далей - Volkswagen, Mazda, Audi, Opel, Ford, і замыкае дзесятку...Mercedes. Відаць, у некаторых раёнах Расіі, Беларусі, Украіны і Малдовы Mercedes стаў сапраўды народным, г.зн. папулярным аўтамабілем. І вось што цікава: для 826 рэспандэнтаў адна і тая ж марка аўтамабіля папулярная і прэстыжная; сярод жанчын-рэспандэнтак самым прэстыжным стаў Mercedes, за выключэннем расіянак - BMW. Сярод папулярных аўтамабіляў у жанчын-рэспандэнтак - Audi.

Пакуль Усходняя Еўропа - не Заходняя па сваіх фінансавых магчымасцях; таму, на думку ўкраінскай сацыялагічнай службы «Грата», такое вялікае разыходжанне паміж вынікамі апытання пра самы прэстыжны і самы папулярны аўтамабіль. А тым не менш, мы мяркуем, што вынікі апытання наконт прэстыжнасці аўтамабіля і г.д. у Германіі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі ці Францыі наўрад ці моцна адрозніваліся б ад беларускіх, малдоўскіх, расейскіх ці ўкраінскіх вынікаў апытання.

**Кацярына Зволін**

**Табліца N1**

| N Марка аўтамабіля | % аддадзеных галасоў |
|---|---|
| **Беларусь** | |
| 1. BMW | 21,2 |
| 2. Mercedes | 20,3 |
| 3. Jaguar | 12,2 |
| 4. Ferrari | 6,4 |
| 5. Lincoln | 4,3 |
| 6. Chrysler | 4,1 |
| 7. SAAB | 3,2 |
| 8. Lamborghini | 3,1 |
| 9. Chevrolet | 2,9 |
| 10. Honda | 2,7 |
| Іншыя маркі | 19,6 аўтамабіляў |
| **Малдова** | |
| N Марка аўтамабіля | % аддадзеных галасоў |
| 1. Mercedes | 19,0 |
| 2. Jaguar | 16,8 |
| 3. Ferrari | 14,4 |
| 4. BMW | 14,3 |
| 5. Honda | 8,6 |
| 6. SAAB | 7,1 |
| 7. Audi | 3,9 |
| 8. Lincoln | 2,2 |
| 9. Ford | 2,1 |
| 10. Toyota | 2,0 |
| Іншыя маркі | 9,6 аўтамабіляў |
| **Расія** | |
| N Марка аўтамабіля | % аддадзеных галасоў |
| 1. BMW | 26,3 |
| 2. Lincoln | 19,2 |
| 3. Mercedes | 19,1 |
| 4. SAAB | 12,1 |
| 5. Ferrari | 6,3 |
| 6. Jaguar | 6,2 |
| 7. Volvo | 2,3 |
| 8. Audi | 1,8 |
| 9. Lamborghini | 1,7 |
| 10. Toyota | 1,7 |
| Іншыя маркі | 3,3 аўтамабіляў |
| **Украіна** | |
| N Марка аўтамабіля | % аддадзеных галасоў |
| 1. Mercedes | 16,6 |
| 2. BMW | 16,4 |
| 3. Jaguar | 9,7 |
| 4. Ferrari | 6,4 |
| 5. Bugatti | 5,9 |
| 6. Lincoln | 5,8 |
| 7. SAAB | 3,9 |
| 8. Toyota | 3,7 |
| 9. Ford | 3,6 |
| 10. Audi | 3,5 |
| Іншыя маркі | 24,5 аўтамабіляў |

# Прыватызацыя ўвойдзе з чэкавымі аўкцыёнамі ў XXI стагоддзе

**Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25.06.99 года аб падаўжэнні чэкавай прыватызацыі з'явілася для Міндзяржмаёмасці своеасаблівым сігналам на правядзенне новых чэкавых аўкцыёнаў.**

Нагадаем, што з першага ліпеня 1999 года згодна з часткай 2 артыкула 13 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб іменных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь» прыватызацыйныя чэкі, нявыкарыстаныя ўладальнікам, павінны быць пагашаны Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь. Аднак з-за недахопу грашовых сродкаў у Цэнтральнага банка краіны, а таксама з-за вельмі нізкіх тэмпаў прыватызацыі ў апошнія чатыры гады ў Рэспубліцы Беларусь, прыватызацыя падоўжана да першага ліпеня 2002 года, а магчымае пагашэнне іменных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» - да 30 чэрвеня 2004 года. Больш падрабязна пра гэта - у артыкуле Кацярыны Зволін «Вынікі прыватызацыі: кожнага беларуса ўлада «кінула» на $400" **(ПАГОНЯ N 47 (424) ад 27 ліпеня)**. Калі падоўжана прыватызацыя, то бліжэйшым часам, вядома ж, павінны прайсці і чэкавыя аўкцыёны. Як нам стала вядома, бліжэйшы з іх Камітэт па распараджэнню аўкцыёнамі пры Міндзяржмаёмасці плануе правесці 18 жніўня.

Высвятляецца, што Міндзяржмаёмасць яшчэ да вядомай пастановы Савета Міністраў ад 25 чэрвеня 1999 года падрыхтавала і ўзгадніла з зацікаўленымі міністэрствамі пералік акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх будуць прапанаваныя на продаж, а таксама пачатковы кошт выстаўляемых каштоўных папераў. Гэта сведчыць аб тым, што некаторым грамадзянам і суб'ектам гаспадарання варта было б усё-такі дачакаецца першага ліпеня. Савет Міністраў з Міндзяржмаёмасцю даўно наперад усё вырашылі...

На 18 жніўня, на першы пасля працягу прыватызацыі чэкавы аўкцыён прадавец выстаўляе на адкрытыя таргі каштоўныя паперы 20-ці акцыянерных таварыстваў. Прычым, акцыі 13 адкрытых акцыянерных таварыстваў будуць прадавацца ўпершыню. Ад Гарадзенскай вобласці будуць выстаўлены акцыі ААТ «Белкард» і ААТ «Беларускі саюз прамысловых мантажнікаў горада Гродна». Сярод іншых абласцей вылучылі акцыі ААТ Пінскага прамыслова-гандлёвага аб'яднання «Палессе» (Берасцейская вобласць), ААТ «Класіка індустрыі моды» (Віцебская вобласць) і ААТ «Жлобінскі рамонтна-механічны завод» (Гомельская вобласць).

На думку эканамістаў, чэкавы аўкцыён, які мае адбыцца, наўрад ці выкліча ажыятаж сярод патэнцыйных пакупнікоў. Гэта абумоўлена не толькі спадам дзелавой актыўнасці ў летнія месяцы, але і працягам на тры гады магчымасці выбару куплі акцый акцыянерных таварыстваў. На погляд эканамістаў, ведаючы пра тое, што тэрмін абароту іменных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» працягнуты да першага ліпеня 2002 года, большасць прафудзельнікаў рынку каштоўных папераў зараз хутчэй за ўсё прытрымаюць свае пакеты чэкаў, чым будуць у спешцы «скідваць» іх і набываць выпадковы тавар.

Тым не менш, эксперты лічаць, што каштоўныя паперы АТ "Палессежылбуд», «Класіка індустрыі моды» і «Белкард» могуць стаць нядрэнным укладаннем прыватызацыйных чэкаў. Мы ж, у сваю чаргу, да вышэйуказаных акцыянерных таварыстваў дадамо акцыі АТ «Беларускі саюз прамысловых мантажнікаў горада Гродна», бо ведаем не па чутках, як там працуюць.

Чэкавыя аўкцыёны Міндзяржмаёмасць (Камітэт па распараджэнню акцыямі) збіраецца праводзіць прыблізна адзін-два разы на месяц аж да першага ліпеня 2002 года.

**Сяргей Міронаў**

## Паважаныя прадпрымальнікі!

**27 ліпеня адбыўся сход прадпрымальнікаў. На жаль, людзей прыйшло вельмі мала. А дарэмна. Бо тыя, хто прысутнічаў на сходзе, маглі атрымаць кансультацыі наконт сертыфікацыі тавара і адпаведную дакументацыю.**

З прычыны таго, што на сходзе прысутнічала няшмат людзей, мы не здолелі вырашыць даволі шмат важных для Вас пытанняў. Ваша пасіўнасць можа прынесці вялікія непрыемнасці для ўсіх прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках (канфіскацыю маёмасці з першага верасня 1999 года, падвышэнне арэнднай платы за месцы, павелічэнне ставак фіксаванага падатку і г.д.).

Прафсаюз усталяваў мэтавы ўнёсак у памеры 200 000 рублёў на правядзенне дабрачыннага мерапрыемства 15 жніўня 1999 года (купля шарыкаў, цукерак, аплата каруселяў для дзяцей). Акрамя таго, усе жадаючыя змогуць здаць памочнікам скарбніка непатрэбныя новыя і б/у (чыстыя і добрыя) рэчы, адзенне, канцылярскія тавары, мэблю, электратавары, камп'ютарную тэхніку, цацкі і г.д. Усе рэчы будуць раздадзены маламаёмасным (па адрасах, выдадзеных гарадскім выканкамам), дзіцячым дамам, школам і раздадзены 15 жніўня 1999 года ў парку паблізу Гарадзенскага Лялечнага тэатра. Пра дні збору рэчаў будзе абвешчана дадаткова (прыкладна 5-14 жніўня).

Дабрачыннае мерапрыества будзе праводзіцца з дзвюма асноўнымі мэтамі: 1) дапамагчы гаротнаму насельніцтву Беларусі; 2) змяніць памылковае ўяўленне той часткі насельніцтва, якая лічыць прадпрымальнікаў «хапугамі» ды «жулікамі».

**Савет прафсаюза грамадзянаў прадпрымальнікаў і асобаў, што працуюць па найму на рынку «Паўднёвы»**

РЭЗАНАНС

# «Ай да Пушкін, ай да малайчына!»



**Гэты чалавек заўсёды вылучаўся сваімі экстравагантнымі акцыямі супраць рэжыму. У 1989 годзе ён спаліў у цэнтры Менска выяву бэсэсэраўскага сцяга. Праз некалькі гадоў ён едзе Віцебскам на белым кані, у рыцарскіх даспехах, з бел-чырвона-белым сцягам у руках. У 1995 годзе арганізоўвае зноў жа ў Віцебску з'езд нацыяналістаў.**

**І вось наступная ягоная акцыя, якая, на думку многіх, выратавала гонар беларускай апазіцыі. Кадры, на якіх беларускі мастак Алесь Пушкін выварочвае тачку з гноем перад Адміністрацыяй прэзідэнта, абышлі ўвесь свет. Сёння Алесь Пушкін - госць ПАГОНІ.**

***- Алесь, 21 ліпеня Вы здзейснілі, на мой погляд, самую народную і самую ўдалую акцыю «Падарунак прэзідэнту». Але чаму менавіта гной, вілы?***

- Тачка з гноем - вельмі балючы вобраз, і, можна сказаць, недазволены прыём, удар ніжэй поясу. Я розныя прадумваў рэчы. Таму што раз у год трэба пабыць грамадзянінам, раз у пяць год схадзіць на выбары. А калі адна асоба ўзурпавала вышэйшую дзяржаўную ўладу, абавязкова трэба было зрабіць свой учынак. Калі б я быў вайскоўцам, я б вывеў танк, стрэліў бы халастымі ў папярэджанне. Калі б быў водаправодчыкам, я б перакрыў краны, каб у гэты дзень не было вады, і даў бы гэтым сігнал, усё!- Дзембель! Ты - грамадзянін, табе і ваду нават нельга падключаць.

А раз я мастак, значыць трэба было правесці перфоманс. У мяне былі нават экстрэмісцкія задумы. Але спыніўся на гэтым. Сутнасць тачкі з гноем - самаізаляцыя. За гэтыя пяць гадоў мы нічога не нажылі, а чым багатыя, тым і радыя. Як ты нам, так і мы табе.

А астатнія атрыбуты - гэта ўсё ягоныя папяровыя справы, нерэальныя. «Прашу вашае падтрымкі», гербы, сцягі, партрэты, купюры.

***- Ці ведалі Вы, што ахова Адміністрацыі мае права адкрываць агонь на паражэнне?***

- Так. Увогуле, я баяўся дзвюх рэчаў. Па-першае, што не дапусцяць пад'ехаць. Думаў, што будуць пасты. І, па-другое, што пачнуць страляць. У іх ёсць інструкцыя - папераджальны ў паветра, потым на паражэнне. Бо, магчыма, гэта тэрарыст, які коціць 40 кілаграмаў толу. Вось такія былі дзве небяспекі.

Першую, дзякуй Богу, абмінулі. Кіроўца пракраўся з праспекту і стаў ля тэатра Янкі Купалы, а астатняе я ўжо зрабіў па-маленьку, не спяшаючыся. І многія міліцыянты, якія там ахоўвалі, страцілі пільнасць, бо думалі, што гэта нейкі асенізатар.

Пра акцыю я заранёў паведаміў аднаму карэспандэнту, ён зрабіў вельмі добрую інфармацыйную падтрымку. Адмыслова праз ПАГОНЮ хачу выказаць за гэта спадару Паўлюку вялікую падзяку.

Калі справа была зроблена, я ўздыхнуў з палёгкай, вельмі быў шчаслівы. Як потым сказаў падпалкоўнік, які ахоўваў рэзідэнцыю, тое, што Вы прайшлі і Вас не спынілі, гэта шанец адзін з тысячы.

***- Тэлевізійныя камеры паказвалі, што Вы, пасля таго, як вывернулі тачку, стаялі і чакалі міліцыянтаў. А яны што, разгубіліся?***

- Так, першы міліцыянт кінуўся як бы нават прыкрываць сваім целам. Я качу, качу, ужо ўсё, хутчэй... Яны бачаць, што чалавек нешта задумаў, але яго ўжо нічым не спыніць. Адзін выбягае і ледзьве не кладзецца на тачку. Я - раз, выварочваю. А міліцыянты стаяць і не ведаюць, што рабіць, нібы ў шоку. Потым схапілі за рукі, выклікалі АМАП. Пытаюцца, ці прыбіраць буду. Не, кажу, вы - лакеі ўзурпатара. Ён вам за гэта плоціць, прыбіраць будзеце вы. Вы на такой рабоце.

Наогул, міліцыянты рабілі перад камерамі вельмі злыя твары. А калі садзілі ў машыну, адзін амапавец, гадоў 40-45, кажа: «Кепска, што ты адзін. Каб былі тысячы, нешта б змянілася».

Ну, а потым, прынцыпова я адмовіўся паведаміць анкетныя дадзеныя. Пішыце, кажу, проста - грамадзянін БНР, прадстаўнік народу. Вось так яны правалэндаліся са мной, потым удакладнілі звесткі. І прынялі рашэнне. Мы бачым, кажуць, што лепшае пакаранне - гэта адпусціць цябе дамоў. Я гавару - як так? Мы ведаем, што ты хочаш сядзець і паказаць, што рэжым змагаецца то з паэтамі, то з мастакамі. Не, ідзі, ты вольны.

***- А якое-небудзь абвінавачанне было прад'яўлена?***

- Аніякага. Дакументаў на расейскай мове я не чытаў і не падпісваў. Паказалі пасля пісульку, што справа яшчэ можа быць распачата. Я кажу: гэта я не прачытаю, не прызнаю і не падпішу. Не падпісвайце, кажуць, калі трэба будзе, мы Вас усё роўна «выдернем».

На працягу трох дзён павінны былі прад'явіць нейкае абвінавачванне. Але вось прайшло ўжо колькі дзён (размова адбывалася 28 ліпеня - **П. М.**), а я вольны, вандрую па Беларусі. Вось прыехаў у Гародню.

***- І якія ўражанні ў Вас ад Гародні?***

- Ужо сем гадоў як я не быў у вас. У мяне тут шмат сяброў. Учора купаўся ў Нёмане. Такая цёплая вада. Але ёсць пах. Калі купаешся ў чыстай вадзе, пасля аблізваеш вусны, дык адчуваеш, што нармальная вада. А тут адчуў, што нешта ёсць брудное.

Зайшлі з жонкай на рэстаўрацыю ў Фарным касцёле. Добры горад. Невыпадкова Караткевіч напісаў «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Гародня - гэта наш самы нацыяналістычны горад.

***- Алесь, я чуў такія меркаванні, што акцыю на 21 ліпеня Вы здзейснілі выключна дзеля славы.***

- Не судзіце па словах, далейшыя падзеі пакажуць. Якая слава? Наадварот! Усе бабулькі праклінаюць. «Каб цябе на той свет вазіла, як ты гной нашаму прэзідэнту возіш». Толькі моладзь кажа: хоць адзін пабыў свабодным чалавекам. І потым, гэта вымушаная рэч, мне не хочацца гэтым займацца. Я з вялікай скрухай думаю, што палітычная сітуацыя ў краіне, акупацыя Беларусі Расеяй вымусяць мяне рабіць больш сур'ёзныя рэчы. Сапраўды, трэба рабіць ужо так, каб у Расеі гарэла зямля пад нагамі. У Беларусі адзін мілён супраць інтэграцыі, гэта ўжо сіла. А так - навошта? У мяне ёсць свае жыццёвыя планы. Мы рыхтуем спектакль паводле Ёнеско «Крэслы» ў Коласаўскім тэатры ў Віцебску, запланавалі «Гамлет» на 2000 год. З Аляксеем Марачкіным падрыхтавалі праект інтэр'еру беларускай царквы ў Кліўлендзе.

У 1991 годзе, як над Беларуссю узнялі бел-чырвона-белы сцяг, я сказаў сабе - усё, соц-арт скончаны. А цяпер зноў даводзіцца гэтым займацца.

***- Вядома, што «Падарунак прэзідэнту» - гэта не першая Ваша акцыя. Ды і арыштавалі Вас не ўпершыню.***

- Так, нават афіцэр адзін 21 ліпеня ў Менску сказаў: «А я Вас памятаю яшчэ студэнтам па 1988-1989 гадах». Ну, кажу, спадар маёр, не часта я Вам надакучваю. А раз у дзесяць гадоў можна ў госці завітаць.

Свой першы перфоманс я правёў 25 сакавіка 1989 года. І мяне асудзілі за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу. Нас было тады чалавек 200-300. Далі два гады пазбаўлення волі з пяцігадовым выпрабавальным тэрмінам. У 1994 годзе - усё скончылася. А цяпер можа пачацца ізноў. Лукашэнка, калі будзе кіраваць і надалей, дык ён адпомсціць. Ён помслівы чалавек.

***- А што гэта за гісторыя са з'ездам беларускіх нацыяналістаў у Віцебску ў 1995 годзе?***

- Прыйшоў да мяне нейк Славамір Адамовіч і кажа: «Давай правядзём у тваёй галерэі з'езд нацыяналістаў. Ну і правялі. У выніку - я, Славамір ды Рамашэўскі з Партыі Аматараў Піва, атрымалі суткі. Яшчэ ў мяне забралі прыватную галерэю. Нічога. Калі прыйдуць нашы людзі, папрашу вярнуць першую прыватную галерэю ў Віцебску.

***- Скажыце, а як сям'я, жонка ставіцца да Вашай дзейнасці?***

- Жонка мая вучылася ў Сагановіча. Была ў клубе «Нашчадкі». Ездзіла па раскопках. Пазнаёміліся мы з ёй падчас рэстаўрацыі ў Магілёве катэдры Св. Станіслава ў 1994 годзе. Па сутнасці, мая жонка - гатовы свядомы чалавек.

***- Добра, а з чаго ўвогуле пачаўся Алесь Пушкін?***

- Са школы-інтэрната імя Ахрэмчыка, з нашых шэфаў. Я ўжо ў дзевятым класе, у 1981 годзе падпісваў свае работы «Жыве Беларусь!» Мы выпускалі насценную газету «Спадчына». Ды і выкладчыкі ў нас былі такія ціхія нацыяналісты.

***- Гэта значыць, казаць, што нейкі выпадак зрабіў Вас нацыяналістам, нельга?***

- Не, не. Гэта ўсё праца галавы, адукацыі і шэфаў. Нашыя шэфы вылучаліся тым, што добра малявалі, ляпілі і былі нацыяналістамі. Сярод іх быў скульптар Алесь Дранец, што ўсталяваў «Пагоню на Грунвальд» на Каложы, скульптар Валяр'ян Янушкевіч.

***- У 1991 годзе Вы наведалі са сваёй выставай Гародню. Але выстава не адбылася. Чаму?***

- На выставу была дамоўленасць паміж Гарадзенскім фондам культуры і Віцебскім фондам культуры. Я прывёз усе свае карціны, выставіў у Новым замку. Дапамагаў мне тады, дарэчы, Алесь Сураў. Нават запрасіў аркестр, каб граў. Па горадзе былі ўжо расклееныя афішы. Аднак раніцою, у дзень адкрыцця выставы, прыйшла камісія. Паглядзелі ды й кажуць: маўляў, нармальная выстава, але трэба толькі зняць дзве працы. Першая - калаж - партбілет размаляваны свастыкай, а другая - два манекены: адзін - у куфайцы, у кішэні - самагон, падраная шапка і шыльдачка «Адзенне сацыялістычнай Беларусі».

А справа была яшчэ перад путчам. Я і адказваю - альбо выстаўляю ўсё, альбо нічога. Так яны і не адкрылі выставу. А публіцы сказалі, што мастак «не внял нашим пожеланиям по формированию экспозиции».

***- Алесь, прозвішча Пушкін зусім нетыповае для Беларусі.***

- Нетыповае. І я вельмі камплексую са свайго прозвішча. Мне яно не падабаецца. Але і мой прадзед, і дзед, і бацька - усе Пушкіны, і ўсе жылі на Беларусі.

***- Як Вы хочаце, каб Вас успаміналі, скажам, гадоў праз 100? Як мастака, ці як чалавека, які прывёз Лукашэнку тачку гною?***

- Хачу, каб памяталі, што быў такі род Пушкіны. Нешта яны зрабілі. Бацька адбудаваў царкву, сын яе распісаў. Хочацца, каб запомнілі, як Язэпа Драздовіча, а не як Жырыноўскага.

**Размаўляў Павал Мажэйка**



# Беларускаму рок-н-ролу поўны андэграўнд?

**«Беларускай Музычнай Альтэрнатыве» менскімі ўладамі было адмоўлена ў правядзенні першага жніўня канцэрта пад назвай «Моладзь за Беларусь». Адмова грунтавалася на тым, што хутка рыхтуецца нарада па выніках расследавання трагедыі на Нямізе, а тут нейкі канцэрт - шмат людзей і гэтак далей. Гэтая адмова стала не першай і, напэўна, не апошняй у шэрагу такіх самых, альбо падобных адмоваў па ўсёй рэспубліцы.**

На Беларусі набірае сілу смутная тэндэнцыя, гэта зразумела ўсім. І з'явілася яна не сёння і не ўчора. У Гродне рок-канцэрты не праводзіліся ўжо больш за пяць(!) месяцаў. У іншых гарадах нашай краіны сітуацыя не лепшая. Самы яскравы прыклад - Менск. На працягу толькі аднаго месяца ліпеня было забаронена чатыры рок-канцэрты. Кожны раз улады знаходзілі зручныя прычыны накшталт неадпаведнасці месца правядзення канцэрта пажарным нормам ды іншыя. Толькі пачаўся жнівень, і зноў тое самае - чарговая адмова. Гэта было б смешна, калі б не было сумна.

Аднак, як заяўляе «Б.М.А.», «вулічныя канцэрты будуць ладзіцца, у якія б умовы не ставілі ўлады арганізатараў. Знікнуць праблемы - гэта не вырашэнне яе». Хацелася б верыць, што ўлады ўрэшце рэшт зразумеюць, што забаронамі беларускі рок не знішчыш ды пачнуць супрацоўнічаць, а не забараняць.

**Рыгор Кавальчук**

# «Deviation» - тур па Польшчы

**Пасьля ўдалага выступу на «Басовішчы» (атрыманы прыз ад старшыні Беларускага Саюзу ў Польшчы) і ўдзелу ў шоу-праграме «Polskie Lato» гарадзенскі гурт «Deviation» правёў міні-тур па Польшчы. 23-24 ліпеня гурт прыняў удзел у штогадовым панк-фэсце «Totalny Rozpierdol Sysmemy».**

Гэты фэст ужо традыцыйна праходзіць у Варшаве і зьбірае альтэрнатыўныя гурты з усёй Эўропы. У гэтым годзе выступалі гурты зь Бельгіі, Швайцарыі, Македоніі, Літвы й вядома ж, Польшчы. Выступ гарадзенцаў у першы дзень фэсту вельмі спадабаўся арганізатарам. Гэта характарызавалася тым, што гурт адкрываў другі дзень фэсту. Арганізатары - Федэрацыя анархістаў Польшчы - ладзіла гэты канцэрт у толькі што захопленым будынку старога расейскага форту. Але ніякіх праблемаў з паліцыяй не ўзьнікла.

Апасьля Варшавы была Познань. «Deviation» граў у самым вядомым польскім сквоце «Rozbrat». Нягледзячы на «мёртвы сэзон», канцэрт усё ж атрымаўся.

Цікава тое, што прыкладна трацiна гледачоў, якія прыйшлі паслухаць беларускі панк, былі мясцовымі скінхэдамі й ведаючы аб «скіноўскай эпапеі» гурта, гарадзенская хлопцы рыхтаваліся да найгоршага.

Аднак стала вядома, што скіны - гэта хлопцы з мясцовага S.H.A.R.P. (арганізацыя скінаў-антыфашыстаў), якім вельмі спадабалася музыка гарадзенцаў.

«У нашай музыцы, асабліва апошнім часам зьявілася шмат элементаў ska (менавіта той музыкі, якую слухаюць скінхэды). Гэта й прыцягвае на нашыя выступы скінаў. І калі гэта не тупагаловыя прыдуркі, мы вельмі рады бачыць іх на нашых канцэртах» -пракаментаваў гэтую сытуацыю вакаліст гурта Стас.

**Конрад Міхельсон**



ПЯРЭСТЫ КУТ

# Адысеі аўстралійскіх беларусаў

**У выдавецтве беларусаў Летувы «Рунь», пабачылі сьвет кнігі ўспамінаў слынных аўстралійскіх беларусаў Алеся Алехніка й Сымона Шаўцова. «Калі чытаеш успаміны беларусаў, што азіраюцца на свой доўгі й горкі шлях, каторы прывеў іх на чужыну, думаеш: колькі ж сілы ды жыцьцёвай энэргіі затрачана імі, каб прыжыцца, украаніцца ў іншую, хай сабе больш урадлівую, але не родную, не сваю глебу?» - піша ў прадмове да кнігі Сымона Шаўцова «Мая адысея» Алег Аблажэй.**

«Мая адысея» складаецца з дзьвюх частак. Першая - непасрэдна ўспаміны Сымона Шаўцова пра дзяцінства ў савецкім юнацкім доме, навучаньне на гістарычным факультэце БДУ, сутыкненьні з рэпрэсіямі супраць беларускай інтэлігенцыі. Нельга пакінуць па-за ўвагай й разьдзелы, прысьвечаныя службе ў савецкім войску. Другая сусьветная вайна ўнесла кардынальныя зьмены ў жыцьцёвы шлях Шаўцова. Нямецкі палон і раптоўнае вызваленьне з дапамогай Фабіяна Акінчыца. Пасьля гэтага пачалася праца на Беларускі Вызвольны Рух. У 1944 годзе Шаўцоў назаўсёды пакідае Менск і Беларусь. Пачынаецца жыцьцё ў Аўстраліі, з неаднаразовымі памкненьнямі вярнуцца ў Менск...

Другая частка «Маёй адысеі» - гэта літаратурная спадчына Сымона Шаўцова, проза і паэзія. Кожны твор прасякнуты бязьмежнай любоўю й настальгіяй па Бацькаўшчыне, па роднаму Менску. Ёсьць радкі, у якіх трапна адлюстроўваецца й сучасная сытуацыя на Беларусі:

*«Была Беларусь*
*рэспубліка,*
*а цяпер яе няма шака,*
*прадаў яе за рублікі*
*Лукашэнка Сашка...»*

Кніга Алеся Алехніка «Пад бел-чырвона-белым» фактычна прысьвечана беларускай эміграцыі паваеннае пары. Вельмі цікавыя ўспаміны аўтара пра жыцьцё беларусаў у лягэрах Ізармос і Міхэльсдорф. «...Добра помню, як у адзін выхадны дзень, група маскалёў абступіла нашага беларуса каля кухні й пачала сьмяяцца з ягонай беларускасьці... Адзін зь іх, падняўшы свой голас, сказаў: «Из каких грязных болот ты сюда приехал?!» і стукнуў юнака ў грудзі. Пачуўшы, напэўна, нашу маральную падтрымку, юнак так асадзіў абражаючага яго маскаля, што той літаральна адляцеў некалькі мэтраў і паваліўся на зямлю...»

Добрая частка кнігі прысьвечаная Аўстраліі, а дакладней беларусам Аўстраліі. Зьместоўна піша аўтар пра сваю дзейнасьць у Сусьветнай Антыкамуністычнай Лізе. Кніга багата аздобленая дакумантамі й фотаздымкамі.

**Каб набыць кнігі, звяртайцеся на адрас: вул. К. Маркса, 11 (першы паверх) штопанядзелак і штосераду з 17.00 да 20.00.**

**Іван Паўлёнак**



**Па гарызанталі:** 7.Што ўнутры жывата? 8.Хто напісаў «Песню пра зубра»? 10.Беларускі паэта XIX стагоддзя. 11.Прысуд настаўніка ў дзённіку. 12.Шматгадовая расліна-парасонік. 14.У якім горадзе замак Радзівілаў? 16.Адступленне. 17.Рэкецірскі гаспадарчы прыбор. 19.Жывы арганізм. 20.Іначай - дока. 24.Бела-рускі паэт. 25.Хатнія рэчы. 26.Тэатральны заўзятар. 30.Паляўнічая сумка. 31.Вулканічная горная парода. 32.Аповесць І.Пташнікава. 33.Любімы інструмент агароднiка. 34.Індыйскі фінік.

**Па вертыкалі:** 1.Арганізацыя беларускіх пісьменнікаў у 20-я гады. 2.П'еса Янкі Купалы. 3.Лубяны абадок у рэшаце. 4.Манера, стыль. 5. Паглыбленасць у сябе. 6.Вадкасць для паскарэння бегу. 9.Стан, калі раніцай хочацца ісці на працу, а ўвечары - дахаты. 13.Прэснаводная рыба. 15.Распус-нік. 17.Аб'яднанне людзей у дакласавым грамадстве. 18.Дзе Пенелопа чакала Адысея? 21.Раённы цэнтр у Берасцейскай вобласці. 22.Пахавальны абрад у старажытных славян. 23.Фальбона на спадніцы, фартуху. 27.Светла-сіні колер. 28.Машына на паперы. 29.Іначай - падбярозавік. 32.Што п'юць на здароўе, страціўшы яго?

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N48 (425)**

**Па гарызанталі:** 7.Абурэнне. 8.Патэльня. 10.Бёрда. 11.Конніца. 12. «Экстра». 14.Сіндык. 16.Пасад. 17.Стан. 19.Ужытак. 20.Вязень. 24.Шалі. 25.Вожык. 26. Прысак. 30.Люлька. 31.Адзімак. 32.Акіян. 33.Сняжынка. 34.Барвёнак.

**Па вертыкалі:** 1.Абуховіч. 2.Рэзгіны. 3.Анабас. 4.Каза. 5.Бэлька. 6.Інтэрнат. 9.Крычаў. 13.Мацяш. 15.Дужкі. 17.Сенцы. 18.Шашок. 21.Канюшына. 22.Мыслік. 23.Самардак. 27.Размова. 28.Акацыя. 29.Ганчак. 32. «Аякс».




♈ **Баран (21.03-20.04).** Пасля ўікэнду Вам давядзецца плённа папрацаваць. Можаце разлічваць на дапамогу некага з-пад знаку Шаляў.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Нечакана для сябе вырашыце праблему, што не давала Вам спакою і падавалася практычна невырашальнай. Ваш дзень - аўторак.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Можаце дазволіць сабе крыху паленавацца. Тым не менш, не забывайцеся на занятк і спортам.

♋ **Рак (22.06-22.07).** З'явіцца магчымасць атрымаць дадатковыя фінансавыя выплаты. Падзеі зробяць нечаканы для Вас паварот напрыканцы тыдня.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Даволі дынамічны тыдзень насычаны творчымі справамі, багаты на новыя знаёмствы. Не пагарджайце прагулкамі.

♍ **Панна (24.08-23.09).** З панядзелка Марс ізноў запражэ Вас працаваць. Выкройвайце час для адпачынку. Часцей выбірайцеся на прыроду - адчуеце сапраўдную асалоду.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Гэты тыдзень абяцае быць такім жа ўдалым, як і папярэдні. Варта заняцца праблемамі са здароўем, калі яны часам узнікнуць.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Адчуеце шчырую ўдзячнасць з боку супрацоўнікаў. Уікэнд багаты на нечаканыя павароты падзеяў.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Нягледзячы на тое, што поспехі на працы не перашкаджаюць Вашым інтэнсіўным любоўным гульням, не забывайцеся на бяспеку. Не губляйце галаву з выпадковымі знаёмымі.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Вырашэнне надзённай праблемы адцягне Вашу ўвагу ад сям'і. Паспрабуйце не азмрочыць у цэлым добры эмацыйны фон.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Зоркі абяцаюць Вам поспехі на любоўным фронце. Нехта з-пад знаку Панны звяртае на Вас занадта шмат увагі. Патлумачце, нарэшце, наколькі гэта марна.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Тыдзень найбольш прыдатны для паездак. У пятніцу і суботу давядзецца шмат працаваць, але вынікі не прымусяць сябе чакаць.

# Беларускі хіт-парад

**(чэрвень-ліпень)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ | Каўчэг |
| 2. | Нэйра Дзюбель | Паляўнічы ды сайгак | Пан-рэк |
| 3. | Народны альбом | (супольны музычны праект) | Каўчэг |
| 4. | Мясцовы Час | Халі-Галі | БМА |
| 5. | Новае Неба | Мая краіна | Каўчэг |
| 6. | Уліс | Чужаніца | Каўчэг |
| 7. | Крама | Што дапаможа нам? | Каўчэг |
| 8. | ТРОІЦА | | TROITSA |
| 9. | CD «Вольныя Танцы: | Слухай Сваё» (зборнік) | БМА |
| 10. | Зьніч | Язычнік - Я! | Зьніч |

Хіт-парад складзены паводле продажу касэтаў і CD. Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна:

у Гродне - кожны панядзелак і сераду, вул. К.Маркса, 11; тэлефон 72-11-83;

у Менску - у кіёску ля крамы «Музыка»; вул. Варвашэні, 8; тэлефон (017)249-08-88.

# «Плавільшчыкі расы»

**«Плавільшчыкі расы» - шосты паэтычны зборнік Славаміра Адамовіча. Зборнік гэты выйшаў у Вільні і з'яўляецца другой кнігай з серыі Бібліятэка «Вострая Брама», у якой выдавецтва «Наша Ніва» друкуе творы розных беларускіх пісьменнікаў ды паэтаў. У кнізе сабрана ўсё лепшае з папярэдніх зборнікаў паэта, гэта такі кароткі гістарычны агляд творчасці С.Адамовіча.**




Як ні называй Адамовіча (ці «дзікі» паэт, ці экстрэміст, ці «свядомы ідыёт»), але паэт ён неблагі. Вершы нагольскі своеасаблівыя, настолькі і простыя, зразумелыя кожнаму. А жыццярадаснасць ды аптымізм, якога не хапае нам сёння, так і пырскаюць са зборніка. Гэта датычыць і вершаў, якія былі напісаныя ў турме. Нават там Адамовіч не страціў пачуцця чалавечага гонару і працягваў пісаць выдатныя лірычныя вершы.

*...Проста хутка*
*асудзяць,*
*проста буду*
*маўчаць,*
*проста сумую*
*па людзях,*
*проста хачу*
*кахаць.*

Аднак асабіста для мяне, нават пасля прачытання дадзенага зборніка, Адамовіч так і застаўся чалавекам, які зашывае сабе рот іголкай на мітынгу, праводзіць З'езд Беларускіх Нацыяналістаў ды заклікае забіць... Не ведаю, можа, на гэта паўплывалі «рамантычныя» ўмовы, у якіх я набыў зборнічак у Славаміра - РУУС Савецкага раёна Менска, дзе мы «адпачывалі» апасля мітынгу. Хаця...

*Такая ціхая і сціплая*
*на шыі крыжык залаты,*
*вяртаеш ты мяне,*
*асіплага,*
*зноў да жыцця*
*і пекнаты.*

**І.Б.**

ТЭСТ

# *Веру - не веру*

**На свеце бывае ўсё, што заўгодна! Нават такое, у што наогул не верыцца. Паспрабуйце інтуітыўна выказаць згоду ці нязгоду з прыведзенымі ніжэй выказваннямі. Калі верыце, пастаўце побач «плюс», калі не верыце - «мінус».**

**1.** Калі атрутную змяю пазбавіць яе жахлівых зубоў, новых замест іх ужо не вырасце.

**2.** ЛондANSкі аэрапорт названы так у гонар рускага архітэктара Хітрова.

**3.** Еўрапейскія цыганы лічаць, што вампіры хаваюць свае косці ў магіле.

**4.** Цунамі вышынёй да 30 метраў назіраюцца прыкладна адзін раз у дзесяць гадоў.

**5.** З правага боку ад крана змяшчаецца вентыль халоднай вады.

**6.** Кактус сагуара можа дасягаць у вышыню 15 метраў.

**7.** Князь Вітаўт у траўні 1398 года падпісаў у Гародні мір з Кейстутам.

**8.** Дарослы тыраназаўр дасягаў 6 метраў у вышыню і 14 - у даўжыню.

**Правільныя адказы:** 1-, 2-, 3+, 4+, 5-, 6+, 7-, 8+.

**Падвядзем вынікі**

***Ну і як? Усе Вашы адказы супалі з правільнымі? Не перавяліся яшчэ разумныя людзі! Калі ж колькасць верных адказаў Вас не зусім задаволіла, засмучацца не варта. Чалавек Вы цікаўны, і гэта някепска. Думаю, іншым разам інтуіцыя Вас не падвядзе!***

**Падрыхтавала**
**Лана Юрына**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:**
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні.
Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 3 250 Наклад 8 834
Нумар падпісаны да друку ў 16.00

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*